


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

18 студзеня 2002 года
№ 3 (352)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна

### Далі газу

ВІЛЕЙКА. Гарадская кацельня на мінулым тыдні пачала сілкавацца, нарэшце, прыродным газам. Адзін з двух катлоў спажывае газ, але ў выпадку неабходнасці ён можа быць пераключаны на мазут. За суткі ў гэтыя дні спальваецца каля 70 тысяч кубаметраў газу. Кацёл, прызначаны для мазута, пакуль адпачывае.

Кацельня да нядаўняга часу знаходзілася на балансе найбуйнейшага бюджэтнага даўжніка – завода "Зеніт" – і была перададзеная Маладзечанскім электрасеткам. Электрасеткі замацавалі за ёй нумар тры.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Швейцарцы ўпалявалі

ВАЛОЖЫН. Днямі мясцовы лясгас наведалі два жыхары Швейцарыі. Яны атрымалі ліцэнзію на паляванне, па якой адстрэлілі 1 зубра і 4 дзіка.

Усё мяса паляўнічыя здалі ў лясгас, а дадому забралі трафеі – галаву зубра і іклы дзікоў. Пасля гэтага экзатычнага палявання на рахунку лясгаса з'явілася 4 тысячы долараў. У пачатку лютага сюды зноў прыедуць, але ўжо з Польшчы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Школьны фіта-бар

СМАРГОНЬ. У сярэдняй школе №6 адкрыты фіта-бар для вучняў. Травы для яго будуць вырошчваць у гадавальніку лясгаса. З ініцыятывы настаўніка біялогіі **Аляксандра Вярсоцкага** сумеснымі намаганнямі школы, дзіцячага садка і маладзёжнага цэнтра будзе створанае школьнае лясніцтва.

**Тарэса КУМІШЧА.**

### Умацоўваем Мінск

АСТРАВЕЦ. Старшыня Астравецкага райспажыўсаюза **Юрый Кацнельсон** вызваліў займаемую да гэтага пасаду ў сувязі з пераходам на новую работу ў Мінск. У сталіцы ён будзе кіраваць аддзелам знешніх сувязяў Белкаапсаюза.

Юрый Кацнельсон кіраваў Астравецкім райспажыўсаюзам 15 гадоў. За гэты час у яго з'явілася нямала саюзнікаў, былі і тыя, хто работу ініцыятыўнага і энергічнага кіраўніка спажывецкай кааперацыі ацэньваў даволі крытычна. Але ў любым выпадку гэта быў кіраўнік, чыё імя далёка вядомае за межамі Астравеччыны.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Лепшую даярку завуць ... Яўген

МЯДЗЕЛ. Малады хлопец **Яўген Русак** за 2001 год больш за ўсіх надаіў малака ў раёне – у сярэднім ад рагулі атрымаў 3333 кг. Далёка апярэдзіў ён усіх даярак. А працуе Яўген на ферме «Брусы» сельгаспрадпрыемства імя Максіма Танка. Матэрыял пра маладога даяра чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў «РГ».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У калгас па веласіпед

ВАЛОЖЫН. Ноччу 11 студзеня невядомыя злачынцы прабраліся ў адно з калгасных памяшканняў гаспадаркі "Лоск". Яны ўкралі тры дзіцячыя веласіпеды і газавую пліту.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Шчаслівы сельсавет

МЯДЗЕЛ. Ніводнага пажару за мінулыя два гады не адбылося на тэрыторыі Латвянскага сельсавета. А наогул на тэрыторыі Мядзельскага раёна за 2001 год было 59 пажараў, загінула ў іх 7 чалавек.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 19 студзеня**

Мінск
-6 – -8°C (уначы)
-2 – -4°C (удзень)



Вільня
-3°C (уначы)
1°C (удзень)



**Нядзеля, 20 студзеня**

Мінск
-4 – -6°C (уначы)
-1 – -3°C (удзень)



Вільня
-2°C (уначы)
2°C (удзень)



# На салдацкі хлеб

**МАЛАДЗЕЧНА. У Беларусі пачалася адпраўка навабранцаў ва Узброеныя Сілы і іншыя вайсковыя фарміраванні.**

Як расказаў кіраўнік 2-га аддзялення Маладзечанскага аб'яднанага гарадскога ваенкамата **Валянцін Арэхаў**, прызыўныя камісіі прайшлі 985 чалавек. Прызналі годнымі да службы 273 юнакі, а ў запас пакінулі 118 (яны будуць чакаць наступнага прызыву). Адтэрміноўку атрымаў 571 "шчаслівчык", з іх 40 – па стане здароўя, 505 – каб працягваць вучобу, 25 – па сямейных справах, 1 – як супрацоўнік пракуратуры.

Сёлета на абследаванні ў камісіях яшчэ знаходзяцца 20 чалавек.

Для праходжання службы хлопцаў накіравалі ў Валожын, Мінск і Брэст. Цікава, што ў гэтым годзе ўсе вайсковыя часці мелі права адбору прызыўнікоў, чаго раней не было. У Маладзечна прыехалі прадстаўнікі з 20 часцей. Так, у Міністэрстве ўнутраных спраў (Мінск) будуць служыць 16 чалавек, у Брэсце – 32, на мяжы ў Гродне – 15. А вось брыгадзе спецыяльнага прызначэння, што ў Мар'інай Горцы, трэба было 10 юнакоў, але адабралі толькі аднаго.

Валянцін Арэхаў зазначае:

– У гэты прызыў было шмат хлопцаў з вышэйшай адукацыяй. Сярэдні ўзрост ад 18 да 26 год. Як і раней, больш жадаюць служыць у Міністэрстве ўнутраных спраў і паветрана-дэсантных войсках.

Застаецца толькі рыхтаваць фотаапараты і відэакамеры, а дзяўчатам – насоўкі, таму што 27 студзеня маладое папаўненне прыме ў часцях прысягу.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



Салдату і скарынка смачная.

Фота: IHEX/ProMedia

## Экспрэс-апытанне віляйчан

# Які тэрмін службы ў арміі аптымальны?



**Таццяна Севярын:**
– Усім хлопцам трэба служыць. Два гады – гэта зашмат, лепей крыху менш. Мой сын у наступным годзе пойдзе ў армію. І я хачу, каб ён служыў, бо там людзі вучацца таму, чаго бацькі не далі.



**Таіса Кезік, работніца завода "Зеніт":**
– Адзін год, не больш. Так думаю, таму што ў мяне два сыны, хоць адзін з іх ужо адслужыў.



**Аляксей Лагутка, вучань СШ №3:**
– Лічу, што паўтара года дастаткова. За гэты час можна ўсяму навучыцца, чалавек зможа абараніць Радзіму.



**Мікалай Яворскі, беспрацоўны:**
– Трэба служыць два гады. За адзін нельга паспець асвоіць усё, асабліва тэхніку.



**Мікалай Кажукайла, прадпрымальнік:**
Аднаго года хопіць. Бо цяпер народ пайшоў разумны, хутка ўсяму навучыцца.

**Апытанне правяла Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ ТЭАТР

# «Родную хату не прадам ніколі»

**12 студзеня ў Мінскім аблдрамтэатры ў Маладзечне прайшла юбілейная творчая вечарына Народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч. Марыя Захарэвіч, якая ўжо пяць год супрацоўнічае з аблдрамтэатрам – наша зямлячка. Нарадзілася ў Навасёлках, якія сталі цяпер ваколіцай Мядзела, 28 лістапада 1936 года. Удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці ў школе, у аматарскім тэатры пры РДК. Артысты станавіліся лаўрэатамі самых розных, у тым ліку, рэспубліканскіх мастацкіх фэстываляў і конкурсаў. Паступіла вучыцца ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Пасля яго заканчэння была залічаная ў трупу Купалаўскага тэатра ў Мінску. Здымалася ў кіна- і тэлефільмах. У 1977 годзе Марыі Захарэвіч было прысвоенае званне народнай артысткі рэспублікі, у 1984 яе адзначылі Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Прапануем кароткае інтэрв'ю са славутай зямлячкай, якое ў яе ўзяў наш мядзельскі карэспандэнт у час аднаго з наведванняў ёю радзімы.**

**– Марыя Георгіеўна, вы часта прыязджаеце на сваю малую радзіму – Мядзельшчыну: і ў мерапрыемствах розных паўдзельнічаць, і проста так. Узгадваецца адна ваша фраза: «Родную хату, хай сабе не новую і не багатую, не прадам ніколі – нават за мільён даляраў». Падаецца, гэта ўсё для вас вельмі дора...**

– У кожнага чалавека самае дарагое – гэта яго бацькі, родныя, землякі, і я прыязджаю на Мядзельшчыну, каб вылечыцца душой, бываю як мага часцей, наколькі гэта магчыма. Таму што... інакш нельга. Я схіляюся перад нашымі людзьмі: яны змаглі перажыць такое ў жыцці, чаго здавалася б, перажыць нельга, немагчыма вытрымаць, а нашы людзі перажылі, яны ўсё могуць, на іх трымаецца жыццё. І я проста хачу пакланіцца ім, пажадаць здароўя, здароўя і яшчэ раз здароўя: дзецям, унукам, старым – усім.

**– Ці памятаеце той час, калі ўпершыню выходзілі на сцэну, яшчэ аматарскую, у Мядзеле?**

– Безумоўна, я памятаю тыя падзеі вельмі ярка. Можа, што і забываецца, але не першыя выступленні – таму што мне вельмі яны дарагія. Быў у нас і драматычны тэатр, я і ў хоры спявала (салісткай была). Шмат было незабыўных момантаў у нашай самадзейнасці: калі хадзілі пехатой у іншыя вёскі, калі начавалі ў хатах, вось пасцеляць дзе саломы... Зразумела, бацькі не хацелі адпускаць, але мелі мы вялікае жаданне, і тое, што людзі нас так слухалі і былі задаволеныя, гэта і нам прыносіла задавальненне. Як, дарэчы, і цяпер. Уся наша удзячнасць – у аддачы людзей, у іх добрых словах, у іх пажаданнях.



Марыя Захарэвіч. Фота з архіва «РГ».

**– Што б вы маглі пажадаць тым падлеткам, якія мараць стаць артыстамі?**

– Я ведаю, што ў нас на Беларусі шмат таленавітых людзей і моладзі і хачу ім пажадаць толькі аднаго: каб яны працавалі над сабой, таму што, як кажуць, талент –– гэта праца. Без працы нічога не бывае.

**– Марыя Георгіеўна, і апошняе пытанне. Адкуль у вас такі цудоўны, цёплы і пранікнёны голас?**

– Ад Бога? Ад бацькоў? Я аб гэтым ніколі не задумвалася і зараз не думаю... Так склалася, што я часта гучала па радыё. І цяпер прыемна, што куды не паедзеш па Беларусі – усюды пазнаюць па голасе. Для мяне гэта вельмі дорага і хвалюе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ТЭАТР

# Адданая сцэне

Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь **Вера Кавалерава** – унікальная з'ява ў рэдкім і непаўторным амплуа "травесці". Усе яе сцэнічныя ўвасабленні хлопчыкаў і дзяўчынак – гэта выхаванне некалькіх пакаленняў гледачоў. У паслужным спісе Веры Ільінічны больш за 60 роляў.

На сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра Маладзечна Вера Кавалерава бліскуча стварыла вобразы **Гітэль** у спектаклі **І. Гібсана** "Двое на арэлях" і **Габі** ў спектаклі **Р. Тама** "Восем закаханых жанчын". Гэта з'ява не толькі для абласнога драматычнага тэатра Маладзечна, але і для тэатральнага мастацтва Беларусі.



Вера Кавалерава. Фота з архіва «РГ».

Праца Веры Ільінічны ў тэатры Маладзечна – гэта творчы рост трупы тэатра, гэта выхаванне падрастаючага пакалення на ідэях мастацтва, дабрыні, павагі, гэта самаадданасць тэатральнай справе.

**Сяргей Валькович, дырэктар Мінскага абласнога драматычнага тэатра Маладзечна.**

**З юбілеем!**

*Вера Ільінічна Кавалерава, калектыў тэатра шчыра вітае Вас з юбілеем, жадае Вам новых творчых здзяйсненняў. Няхай у Новым годзе мацнее наша сяброўства. Дай Вам Бог бясконцага ззяння на тэатральным небасхіле. Здароўя Вам, новых творчых знаходак.*

Калектыў абласнога драматычнага тэатра запрашае маладзечанцаў на творчую вечарыну-бенефіс, якая адбудзецца 20 студзеня ў 17.00 з нагоды юбілею заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Веры Кавалеравай.

## Тры прызавыя месцы

МЯДЗЕЛ. Найлепей на абласных прадметных алімпіядах выступілі вучні Мядзельскай СШ №2. Дзве яе прадстаўніцы заваявалі другія месцы: **Зоя Валасевіч** (па геаграфіі) і **Ірына Каляка** (па гісторыі). А **Тацяна Казлоўская** з школы к.п. Нарач была трэцяй на алімпіядзе па іспанскай мове.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Пакідаюць Беларусь

Удава **Генадзя Карпенкі**, віцэ-спікера Вярхоўнага Савета 13-га склікання, былога дырэктара завода парашковай металургіі і старшыні гарвыканкома ў Маладзечне, які памер у 1999 годзе, і іншыя члены яго сям'і звярнуліся да ўладаў Германіі з просьбай аб прадастаўленні палітычнага прыстанішча, паведамляе "Інтэрфакс".

У кругах, блізкіх да фонду імені Карпенкі, які пасля смерці мужа стварыла і ўзначаліла **Людміла Карпенка**, заяўляюць, што яе сын і сям'я дачкі ўжо пакінулі тэрыторыю Беларусі.

Карпенка не бачыць будучага для сваіх дзяцей у Беларусі. Яна сцвярджала, што на сям'ю аказваўся моцны псіхалагічны ціск.

Раней Карпенка неаднаразова заяўляла, што яе муж быў забіты, і патрабавала ад уладаў узбудження крымінальнай справы. У прыватнасці, удава звяртала ўвагу на тое, што яе муж памер адразу пасля навадання ім экс-кіраўніка Нацыянальнага Банка рэспублікі **Тамары Віннікавай**, якая тады знаходзілася пад дамашнім арыштам і якая ўцякла з-пад арышту ў дзень пахавання Генадзя Карпенкі.

**Па матэрыялах Інтэрфакса.**

# «Тутэйшыя» – лепшыя гульцы ў КВЗ

**МАЛАДЗЕЧНА. 11 студзеня ў Доме культуры чыгуначнікаў адбыўся гарадскі конкурс гульні КВЗ. Удзел бралі каманды з трох школ: "Ералаш" (СШ №1), "Сяброўкі і сябры" (СШ №3) і "Тутэйшыя" (СШ №7). Жартавалі вучні на тэму: "Толькі раз у год".**

Амаль поўная зала дала волю эмоцыям пасля традыцыйных слоў: "Мы пачынаем КВЗ". А пасмяяцца было з чаго.

Пачалася гульня з візітнай карткі пад назвай "Усё для вас". Ад першапраходцаў – СШ №1 – выступіла "мадам Брошкіна", якая атрымала ў падарунак цыгарэты. А фотамадэлі з "Большой стирки" паказалі сапраўднага спонсара – з ручкамі, ножкамі і кашальком (чамадан на спіне). Потым зала выбухнула апладысментамі пасля выхаду пераможцаў мінулага года – "Тутэйшых". Іх гандляр касметыкай прапанаваў "гліцэрынавыя слёзкі" і "істэрычныя румяны", якія дапамагаюць пры сустрэчы з настаўнікамі. А адзін вучань пакрыўдзіўся на настаўніцу замежных моў, якая "абазвала" яго даунам, калі сказала "sit down".

Па словах вядучай **Алены Сакалоўскай**, больш за ўсіх хваляваліся "Сяброўкі і сябры", якія выступалі ўпершыню. Але ж зала падтрымала і гэтую каманду, якая разбурыла стэрэатып: "СШ №3 – адпачывае".

У музычным конкурсе "Новы год да нас імчыцца" сімпатыі гледачоў атрымаў **Дэцл** (вучань 5 класа СШ №7 **Павел Кавалеўскі**), які ад суму праспяваў песню з рэпертуару "Спліна" – "Маё сэрца спынілася". А канкурэнцыю яму склала вучаніца 2 класа СШ №3 **Руслана Камкова**, якая без перапынку танцавала дзве песні ад "Рукі ўверх".

Акрамя школьных каманд была яшчэ адна – каманда журы. Гэта культарганізатар цэнтра дзіцячай творчасці **Ала Яцына**, акцёры Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Ірына Камышава** і **Сяргей Карзей**, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце палітэхнікума **Тамара Лубінская**, дырэктар Дома культуры чыгуначнікаў **Ірына Лявошка**, метадыст гарадскога ДК **Святлана Адамушка** і аўтар гэтых радкоў. Мы павінны былі вызначыць мацнейшага. З гэтым цяжкасцяў не было, таму што з самага першага конкурсу лідэрства захапілі "Тутэйшыя".

Апошні конкурс – "Бывае ж такое!" – гульцы праводзілі на беларускай мове. Яны даказалі, што з двухмоўем у іх поўны парадак.

"Тутэйшыя" далі просты рэцэпт кахання з першай лыжкі: "матэматыка + валяр'яна". А іх сябар настолькі прасякнуўся лозунгам "Школа – наша родная хата", што адразу адбіў бацькам тэлеграму: "Застаюся ў школе, пакуль не выганяць. Вярнуся дарослым".

"Сяброўкі і сябры" вырашылі стварыць у Маладзечне тэлеканал. З яго навінаў спорту мы даведаліся, што нашы фігурысты тры разы ўзыходзілі на п'едэстал гонару і тры разы арганізатары іх праганялі.

Вось так жартуюць вучні, і гэта радуе, таму што ўсяму свой час. Будзе ён і для дарослых жартаў. А пераможцамі два гады запар становіцца каманда СШ №7 – ("Тутэйшыя", 130 балаў), другое месца – СШ №1 ("Ералаш", 108 балаў) і трэцяе – СШ №3 ("Сяброўкі і сябры", 107 балаў).

Усе каманды атрымалі ганаровыя граматы і вялікія торты.



Паша Кавалеўскі не сумуе нават у школе. Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Вось што гаворыць кіраўнік самых вясёлых і знаходлівых **Аляксандр Раінчык**:

– Перамагаць заўсёды прыемна. У нас ёсць жаданне гуляць – гэта ўжо традыцыя.

А старшыня журы Ала Яцына пажадала, каб у наступным годзе каманд было больш, як і непаўторных жартаў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Калгас пабудаваў царкву

**МЯДЗЕЛ. Нядаўна калгас перадаў праваслаўнай абшчыне вёскі Занарач новую царкву. Будавалі яе дзевяць год.**

Зрабіў добрую справу мясцовы калгас «Шлях да камунізму». Кіраваў будаўніцтвам яго тагачасны старшыня **Антон Стома**. Гаворыць, што раней, калі ў гаспадаркі хапала грошай, за год бы узвялі падобнага ўзроўню аб'ект. А ў 90-ыя гады нялёгка даваўся. Сярод іншых дапамаглі і нямецкі дабрачынны фонд «Дамы замест Чарнобыля», які паблізу пабудаваў вёску Дружная для перасяленцаў з забруджанай зоны. А пачне працаваць царква вясною. На асвячэнне маркуе прыехаць Патрыярршы экзарх усяе Беларусі **Філарэт**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Цяперашні старшыня калгаса Пётр Каўрус і былы – Антон Стома ля новай царквы.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## З інтэрвалам у паўгадзіны

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу, каля 21-00, 42-гадовы мужчына зваліўся з шостага паверха жылога дома. У стане алкагольнага ап'янення, ён звязаў тры прасціны і пачаў спускацца, але сарваўся. "Альпініст" зламаў толькі руку і нагу.**

У гэты ж дзень, на паўгадзіны раней, жыхары дамоў па вуліцы Будаўнікоў паведамілі ў дзяжурную часць пра нажавое раненне. У выніку перахвату затрыманы 16-гадовы хлопец, які быў п'яны. Ён ударыў кухонным нажом трох мужчын, але на допыце прычыны зробленага не растлумачыў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# «Мне не ўсё адно, а табе?»

## У Маладзечне і Маладзечанскім раёне шасцёра чалавек носяць у сабе вірус СНІДу

**Па ацэначных дадзеных ЮНЭЙДС, па стане на 1 студзеня 2001 года ў свеце зарэгістравана 36,1 мільёна ВІЧ-інфіцыраваных. Упершыню інфіцыравана ў 2000 годзе 5,3 мільёна чалавек, у тым ліку, дарослых – 4,7 мільёна і 600000 дзяцей да 15 год. З пачатку эпідэміі памерла 21,8 мільёна чалавек, у тым ліку, у 2000 годзе – 3 мільёны. Штодзень у свеце рэгіструецца 15 тысяч новых выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.**

Сярод краін СНД Рэспубліка Беларусь займае 3-е месца пасля Расіі (86825 інфіцыраваных) і Украіны (36600 інфіцыраваных). У нашай рэспубліцы першы выпадак ВІЧ-інфекцыі быў выяўлены ў 1987 годзе. На 1 лістапада 2001 года зарэгістраваны 3828 ВІЧ-інфіцыраваны. У 2001 годзе выяўлена больш за 540 выпадкаў інфіцыравання. Па абласцях сітуацыя наступная (у парадку ўбывання): Гомельская – 2621; Мінск – 487; Брэсцкая – 173; Магілёўская – 172; Мінская – 143; Гродзенская – 141; Віцебская – 90. Пераважная большасць інфіцыраваных – гэта маладыя людзі ва ўзроставай катэгорыі 20–24 гады (41,86%) і 25–29 (26,35%). У структуры ВІЧ-інфіцыраваных мужчыны складаюць 72,03%, жанчыны – 27,97%. Асноўная прычына заражэння – ін'екцыйнае ўвядзенне наркатычных рэчываў.

Распаўсюджванне ВІЧ-інфекцыі сярод жанчын прыводзіць да павелічэння колькасці дзяцей, народжаных ад ВІЧ-інфіцыраваных маці. Усяго ў рэспубліцы іх нарадзілася 198, на сённяшні дзень 23 дзецям пастаўлены дыягназ " ВІЧ-інфекцыя". У стадыі СНІД знаходзіцца 4 чалавекі, стан яшчэ 23 інфіцыраваных набліжаецца да пастаноўкі аналагічнага дыягназу.

У Маладзечне зарэгістравана 5 ВІЧ-інфіцыраваных (1 жан., 4 муж.), у Маладзечанскім раёне – 1 (муж.), узрост 20–28 год.

ВІЧ (вірус імунадэфіцыту чалавека) выклікае невылечнае інфекцыйнае захворванне (ВІЧ-інфекцыю), якое працякае працягла, з паражэннем жыццёва важных клетак ахоўнай (імуннай) сістэмы арганізма чалавека з непазбежным смяротным зыходам.

Захворванне працякае ў некалькі стадый. Апошняя называецца СНІД (сіндром набытага імуннага дэфіцыту): сіндром – сукупнасць шэрагу прыкмет і сімптомаў захворвання; набытага – набываецца на працягу жыцця; імуннага – паслабленне ахоўных сіл арганізма; дэфіцыту – адсутнасць рэакцыі з боку імуннай сістэмы ў адказ на ўкараненне віруса. З той прычыны, што агенізм ужо не ў стане змагацца не толькі з патагеннымі, але і са звычайнымі мікробамі, што жывуць у лёгкіх, кішэчніку, на скуры чалавека з дзіцячага ўзросту, развіваюцца паражэнні слізістых абалонак, лімфатычных вузлоў, дыхальнай сістэмы. Хворы губляе ў вазе каля 10%. Ад моманту заражэння да смяротнага зыходу праходзіць 10–12 год.

Адзінай крыніцай распаўсюджвання ВІЧ з'яўляецца заражаны гэтым узбуджальнікам чалавек.

Шляхі перадачы віруса:

– палавы (пры ўсіх відах неабароненых палавых кантактаў, асабліва пры частай змене палавых партнёраў і анальным сексуальным кантакце);

Парэнтэральны (праз кроў) – сумеснае выкарыстанне забруджаных шпрыцаў і іголак асобамі, якія выкарыстоўваюць наркотыкі ўнутрывенна, а таксама пры ўжыванні наркотыка, заражанага вірусам пры выкарыстанні або фасоўцы; выкарыстанне нестэрыльнага інструментарыя для правядзення татуіровак і пірсінгу, сумесным выкарыстанні манікюрных або брытвенных прыстасаванняў; пералівання інфіцыраванай крыві і яе прэпаратаў, але з 1987 года ўведзенае абавязковае тэсціраванне донарскай крыві, таму рызыка заражэння цераз яе зведзеная да мінімуму;

– вертыкальны (ад маці дзіцяці). Перадача віруса ад маці можа адбыцца ў час цяжарнасці, родаў, кармлення грудзьмі (таму дзіця, народжанае ад ВІЧ-інфіцыраванай маці, з першага дня жыцця пераводзіцца на штучнае кармленне).

У нашай рэспубліцы сітуацыя па ВІЧ-інфекцыі разглядаецца як пагражальная. Кожны можа заразіцца з-за ўласнага глупства, неасцярожнасці ці няведання. Вылечыцца ад гэтай хваробы немагчыма, але засцерагчыся – можна.

Пазбегнуць заражэння вірусам імунадэфіцыта чалавека дазволіць захаванне здаровага ладу жыцця:

– трэба выключыць дашлюбныя сувязі;

– трэба мець аднаго надзейнага палавога партнёра;

– трэба выкарыстоўваць прэзерватыў пры ўсіх відах палавых кантактаў;

– не датыкайцеся да наркатычных рэчываў, калі няма магчымасці адмовіцца ад наркотыка, карыстайцеся індывідуальнымі шпрыцамі і іголкамі;

– інструменты для галення, манікюру, гігіенічных працэдур і іншыя павінны быць індывідуальныя;

– пры правядзенні медыцынскіх працэдур, пры абслугоўванні ў касметычных кабінетах і цырульнях патрабуйце прымянення стэрыльнага інструментарыя.

Тэсціраванне на наяўнасць ВІЧ можна прайсці ў любой медыцынскай установе, незалежна ад месца жыхарства, работы, вучобы. Кроў бярэцца з вены і накіроўваецца ў лабараторыю. Адказ можна даведацца па тэлефоне, дастаткова паведаміць рэгістрацыйны нумар. Першы станоўчы адказ яшчэ не сведчыць пра заражэнне ВІЧ. Ён бывае ў тых, хто пакутуе на алергічныя захворванні, цяжарных, алкаголікаў, пры пухлінных і іншых захворваннях. Таму для пастаноўкі канчатковага дыягназу неабходнае паўторнае тэсціраванне.

У Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь ёсць артыкул №157 аб адказнасці за заражэнне вірусам імунадэфіцыту чалавека, згодна з якім у залежнасці ад цяжкасці здзейсненага, вінаваты караецца ад штрафных санкцый (свядомае пастаўленне ў небяспеку заражэння ВІЧ іншай асобы) да пазбаўлення волі на тэрмін да 12 год (наўмысна ці па легкадумнасці заражэнне ВІЧ дзвюх і больш асоб або непаўналетняга).

**Марына РЫСНІК, урач-эпідэміёлаг Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**



**Бальнічныя сцэны ніколі не бываюць утульнымі.** Фота IREX/ProMedia.

# Рак малочнай залозы

**Гэтае захворванне – самая частая форма злаякасных пухлін у жанчын. Сярод, здавалася б, поўнага здароўя жанчына звычайна сама знаходзіць зацвярдзенне ў малочнай залозе. У дадзенай сітуацыі асабліва небяспечная чакальная пазіцыя.**

Якія ж фактары выклікаюць падобныя змяненні і такім чынам садзейнічаюць узнікненню раку малочнай залозы?

Іх можна звесці да трох асноўных груп: 1) фактары, якія характарызуюць дзейнасць дзетароднай функцыі арганізма жанчыны (менструальная, палавая, лактацыйная, а таксама спадарожныя захворванні жаночай палавой сферы); 2) спадчынныя фактары (наяўнасць злаякасных пухлін, галоўным чынам, малочнай залозы па бацькоўскай і мацярынскай лініях); 3) паяўрэдняя і спадарожныя захворванні нервова-эндакрыннай сістэмы.

Пачатковыя сімптомы раку малочнай залозы сапраўды вельмі нязначныя, яны амаль не непакояць жанчыну і забыцца, адагнаць думку пра іх лёгка. Але праходзіць час – і гэтыя сімптомы нарастаюць, з'яўляюцца новыя, больш выяўленыя змяненні, якія істотна непакояць хворую. Пухліна павольна павялічваецца ў памерах. Калі яна размешчаная паблізу ад саска, могуць быць крывяністыя выдзяленні з яго.

Назіраецца дэфармацыя малочнай залозы, уцягванне скуры, ацёчнасць. У хуткім часе ў падмышачнай воблас ці з'яўляюцца шчыльныя вузелькі – пухліна метастазуе па лімфатычных шляхах у падпахавыя лімфавузлы.

Разрастаючыся і павялічваючыся ў памерах, пухліна пранікае ў іншыя тканкі: скуру, клятчатку, рэбры, з'яўляюцца моцныя болі. Жанчына вымушаная ісці да ўрача, але лячэнне ў гэты момант часта ўжо малаэфектыўнае. Многія магчымасці незваротна згубленыя, чакае нялёгкае лячэнне, і вынікі яго нявызначаныя. Рызыка захварэць ракам малочнай залозы вышэйшая пры раннім наступленні першых месячных (да 12 год), позняй менапаўзе (пасля 50 год), пры позніх першых родах (пасля 28 год) або адсутнасці родаў. Як сведчаць эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, 25% выпадкаў раку звязана з познімі першымі родамі, 10–20% – з нядобранадзейнай спадчыннасцю і высокім утрыманнем тлушчу ў рацыёне, са збыткоўнай вагой цела.

Жанчыны, якія пакутуюць на парушэнні менструальнай функцыі, эндаметрыёз, адэнаміёз, гіперплазію эндаметрыя, міёму маткі, складаюць групу высокай рызыкі развіцця цяжкіх формаў мастапатыі і раку малочнай залозы. Вельмі часта рак малочнай залозы развіваецца пасля яе траўмы.

Запушчанасць раку малочнай залозы ў групе асоб з упершыню ўстаноўленым дыягназам застаецца даволі высокая. А малочная ж залозы добра даступныя візуальнаму назіранню і кантролю, таму жанчына сама можа лёгка заўважыць змяненні або пачатковыя сімптомы іх захворвання і своечасова наведаць ўрача.

Жанчыны, якім больш за 30 год, павінны сачыць за станам сваіх малочных залозаў, навучыцца абследаваць сябе.

Самаабследаванне – гэта некалькі простых прыёмаў агляду і абмацвання малочных залозаў, якія жанчына павінна праводзіць самастойна адзін раз на месяц у першы тыдзень пасля месячных.

**Агляд і абмацванне малочных залозаў перад люстэркам.** Жанчына агаляе верхнюю палову тулава, становіцца перад люстэркам і ўважліва аглядае спачатку левую залозу, а затым правую. Неабходна агледзець саскі – ці не змянілася форма, ці не з'явілася ўцягванне, або "лімонная скарынка" у вобласці саскоў і арэолы. Пасля гэтага, мякка націскаючы двума пальцамі, трэба праверыць, ці няма выдзяленняў з саскоў. Затым трэба агледзець контуры малочных залозаў, адзначыць, ці няма якіх-небудзь уцягванняў ці выпукленняў. У норме контуры малочных залозаў плаўныя (дэфармуюцца, калі развіваецца пухліна, – з'яўляюцца выпукленне і ўцягванне скуры). Далей, павярнуўшыся напаўпаварота ўправа, трэба агледзець левую малочную залозу і, павярнуўшыся напаўпаварота ўлева, – правую. Пухліна малочнай залозы лепш бачная, калі жанчына падыме рукі ўверх або закладзе іх за галаву. Гэтым прыёмам карыстаецца ўрач, калі ўстанаўлівае наяўнасць і характар захворвання ў малочнай залозе.

Парушэнне сіметрыі размяшчэння саскоў, уцягванне аднаго з іх, прыўзнятае палажэнне адной малочнай залозы ў адносінах да другой, выдзяленні з саска ў большасці выпадкаў сведчаць пра наяўнасць нейкага захворвання.

**Агляд і абмацванне малочных залозаў лежачы.** Жанчыне трэба легчы на спіну, пры гэтым малочныя залозы робяцца больш плоскія і размяшчаюцца на грудной сценцы. У такіх умовах падчас можна ўбачыць выпукленні, якія не заўважныя ў вертыкальным становішчы цела. Затым кончыкамі крыху сагнутых пальцаў левай рукі мяккімі кругавымі рухамі, ледзь-ледзь націскаючы, трэба абмацаць усю правую залозу, участак за ўчасткам. Калі яна вялікіх памераў, трэба падтрымаць яе левай рукой знізу і абмацаць далоняй правай рукі, прыціскаючы тканку малочнай залозы да грудной сценкі. Так сама абмацваюць левую малочную залозу.

Наступны этап – правая рука прыкрывае правую малочную залозу, левая – левую і робіцца мяккія кругавыя рухі па гадзіннікавай стрэлцы і супраць яе. Пры такім абмацванні могуць быць знойдзеныя нават невялікія зацвярдзенні ў малочных залозах.

Падпахавая ямка абследуецца пры злёгку адведзеным плячы. Кончыкі сагнутых пальцаў, заведзеных ў падпахавую вобласць, плаўна перасоўваюцца ўніз, да малочнай залозы, прыціскаючы тканку да грудной сценкі. Такім чынам можна намацаць павялічаныя лімфатычныя вузлы.

**Алена ГЛАЎНІЦКАЯ, галоўны ўрач Маладзечанскага гарадскога цэнтра здароўя.**

# Прызыўнік, будзь гатовы!

**МАЛАДЗЕЧНА. 10–11 студзеня 2002 года прайшла гарадская спартакіяда сярод дапрызыўнікоў сярэдніх школ.**

У праграму ўваходзілі тры віды спаборніцтваў. Стральба з пнеўматычнай вінтоўкі з дыстанцыі 10 метраў у мішэнь і падцягванне на перакладзіне праводзіліся ў СШ №6. А лыжная гонка на дыстанцыі 3 кіламетры – у гарадскім парку.

Апошняе спаборніцтва і вырашыла ўсё. Першымі да фінішу прыйшлі вучні беларускай гімназіі **Віктар Вараб'ёў** (яго час склаў 9.18), **Алег Бярбінаў** і **Канстанцін Асіповіч**. У дзесятку лепшых увайшлі **Максім Тумаш** (беларуская гімназія), **Аляксей Андрэеў** (СШ №6), **Аляксандр Конан** (СШ №1), **Андрэй Скадорва** (СШ №1), **Аляксандр Харэцкі** (СШ №11), **Цімафей Хрол** (СШ №6) і **Максім Шульжэнка** (СШ №11).

У выніку лідэрам стала беларуская гімназія. У суме каманда набрала 608 балаў. На другім месцы – СШ №11 (468), а на трэцім – СШ №1 (465).

Каманда-пераможца ўзнагароджваецца граматай і грашовым прызам (15000 рублёў) аддзела па фізкультуры і спорце гарвыканкома. Удзельнік, які паказаў лепшы вынік, узнагароджваецца граматай і прызам у 5000 рублёў.

Кіраўніцтва правядзеннем ажыццяўлялася аддзелам па фізкультуры і спорце гарвыканкома. За спаборніцтвам назіралі галоўны суддзя спартакіяды **Анатоль Кацельнікаў**, галоўны суддзя спаборніцтва **Уладзімір Цівуновіч**.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Спаборніцтва пачалося. Хто будзе першы: Юра Парыцька з СШ №9 або вучань СШ №2 Павел Мусатаў?**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Будучы прызыўнік Мікалай Сакалоў з СШ №6 здолеў падцягнуцца 14 разоў.**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**У дзесятку цэліцца вучань СШ №6 Даніла Шакураў.**

## Табло

**■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА**

Рэкордныя і антырэкордныя серыі:

Вынікі: перамогі – 4 (5 чэмпіянат), без паражэнняў – 8 (4), нічые – 5 (3), без нічыіх – 15 (7-8), паражэнні – 10 (9), без перамог – 15 (9).

Вынікі дома: перамогі – 3 (4, 6, 6 і 7), без паражэнняў – 9 (4-5), нічые – 3 (3, 3 і 4), без нічыіх – 11 (6), паражэнні – 7 (9), без перамог – 28 (8-9-11).

Вынікі ў гасцях: перамогі – 3 (3), без паражэнняў – 4 (3 і 4), нічые – 3 (2), без нічыіх – 10 (4), паражэнні – 6 (8 і 11), без перамог – 9 (8).

Галы: без забітых – 5 (9), з забітымі – 10 (4), без прапушчаных – 4 (1), з прапушчанымі – 23 (7-8).

Галы дома: без забітых – 4 (9-11), з забітымі – 8 (5-6), без прапушчаных – 5 (1), з прапушчанымі – 17 (8-9-11).

Галы ў гасцях: без забітых – 4 (2-3), з забітымі – 7 (4-5), без прапушчаных – 3 (2), з прапушчанымі – 11 (8).

Цікавыя галявыя серыі: адзін забіты – 6 (4), тры і больш прапушчаных – 7 (11), два прапушчаныя дома – 4 (7-8), тры і больш прапушчаныя ў гасцях – 5 (11).

Ідуць серыі: без нічыіх – 9, без нічыіх у гасцях – 8,

Цяпер будзе прадастаўленая статыстыка па асобных гульцах (для вышэйшай лігі).

Праведзеныя матчы:

1. Казяк .......... 183
2. Лебедзеў .......... 174
3. Клімовіч .......... 166
4. С. Кабельскі .......... 150
5. Лукашэнка .......... 115
6. Вяжэвіч .......... 114
7. Акуліч .......... 105
8. Лукін .......... 82
9. Федаровіч .......... 80
10. Каўтуноўскі .......... 78

...

18. Міхалёў .......... 54
23. Д. Кабельскі .......... 50
28-30. Макрыцкі .......... 38

Дэбютавалі 17 чалавек.

Забітыя галы:

1. Вяжэвіч .......... 40
2. Казяк .......... 32
3. Лукін .......... 15
4. Акуліч .......... 14
5. Лабанаў .......... 11
6. У. Макоўскі .......... 11
7. **Турчыновіч .......... 8**
8. Падрэз .......... 8
9. М. Макоўскі .......... 8
10. Клімовіч .......... 8

...

14-18. Міхалёў .......... 6
24-26. Макрыцкі .......... 4
27-31. Сідарэнка .......... 3

Галявыя пасы:

1. Казяк .......... 27
2. Вяжэвіч .......... 16
3. Лукін .......... 11
4. С. Кабельскі .......... 11
5. Лявіцкі .......... 8

...

13-23. Азаронак .......... 4
13-23. Міхалёў .......... 4

Парушэнні (папярэджанні+выдаленні):

1. С. Кабельскі .......... 33+2
2. Д. Кабельскі .......... 14+1
3. Вайтовіч .......... 7+2
4. Федаровіч .......... 10+1
5. Лебедзеў .......... 13+0
6. Вяжэвіч .......... 12+0
7. Казяк .......... 12+0

Сімвалічная зборная сезонаў 1992-1999 пры дадаванні сезона-2001 змяненняў не атрымала.




Запасныя: Малышаў, С. Кабельскі, Каўтуноўскі, Акуліч, Лукашэнка, Падрэз, Лукін.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**■ ЛЫЖНЫ ТУРЫЗМ**

# Узнагароджаныя абаранкамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Добрая зіма ў гэтым годзе. І для тых, хто не лянуецца і мае лыжы – сапраўдная раскоша!**

У адзін з дзён зімовых канікулаў вучні 5 "В" класа беларускай гімназіі са сваімі бацькамі наладзілі лыжную прагулку ў бярозавы гай, любімае месца маладзечанскіх лыжнікаў. Нялёгка было прайсці 4 кіламетры туды і столькі ж назад тым, хто даўно не стаяў на лыжах. Але добры настрой, надзейныя сябры дапамагалі. У гаі школьнікі не толькі пакаталіся з гары ды пахадзілі па лесе, але і паўдзельнічалі ў спаборніцтвах па біятлоне. Траса была даволі складаная: спускі і пад'ёмы, два агнявыя рубяжы, і, натуральна, штрафныя кругі. Ніводны з удзельнікаў без іх не абышоўся. А пераможцамі сталі сярод дзяўчынак **Кацярына Каткоўская** і сярод хлопчыкаў – **Мікалай Бялкоў**.

Пераможцы ўзнагароджаныя граматамі Маладзечанскага турклуба "Пілігрым" і прызамі (набор рučак). Ад бацькоў усе атрымалі па звязцы абаранак.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**



Фота Сяргея БЯЛКОВА.

**Косця Валасковіч пасля спаборніцтваў.**



Фота Сяргея БЯЛКОВА.

**Раман Сарока.**

**■ ФУТБОЛ**

# У Стайках больш прастору

**З 3 студзеня маладзечанцы прыступілі да перадсезоннай падрыхтоўкі.**

Займаліся тыдзень на трэніровачнай базе ў Стайках, а цяпер заехалі ў Маладзечна. Мяркуецца, што каманда будзе тут трэніравацца на працягу студзеня і лютага, раз-два на тыдзень выязджаючы ў Стайкі, бо ў тамтэйшым прасторным манежы куды зручней наладжваць камандныя дзеянні. Дарэчы, там сёння запланаваная сустрэча са "Славіяй" (звычайна ў стайкаўскім манежы каманды гуляюць "дзевяць на дзевяць"). У планах на люты – удзел у турніры ці то ў Пінску, ці то ў Брэсце. У сакавіку не выключаецца выезд за мяжу на трохтыднёвы збор. Больш верагодныя адрасы – Польшча альбо Чэхія.

# Турчыновіч шукае агульны назоўнік

Закончыліся тэрміны кантрактаў у **Аляксандра Багайчука** і **Андрэя Турчыновіча**. Першы не праходзіў у аснову каманды, таму яго страта не будзе надта адчувальнай. Цяпер Багайчук на прагля дзе на Украіне. Лепшы ж бамбардзір клуба Турчыновіч набірае спартыўную форму пасля траўмы, якая перашкодзіла яму правесці апошнія матчы мінулага сезона, трэніруецца разам з камандай і, увогуле, не супраць застацца. Аднак ідуць перамовы наконт фінансавых умоў: па словах прэзідэнта клуба і галоўнага трэнера **Людаса Румбуціса**, клуб і Андрэй пакуль не знайшлі тут агульны назоўнік. Трэніруюцца разам з усімі і выстаўленыя на трансфер **Андрэй Млечка** і **Аляксандр Вільтоўскі**, тэрміны кантракта ў якіх не скончыліся. Іх далейшы лёс нявызначаны. Закончыўся тэрмін арэнды **Ігара Сарасека** і **Дзмітрыя Ваўчка**. Хутчэй за ўсё, Сарасек працягне выступаць за "Маладзечна-2000" (кантракт пакуль не падпісаны), а Ваўчок – не.

Навічкоў з іншых мясцін не прадбачыцца, стаўка, як вядома, робіцца на ўласныя кадры. З дубля пераведзеныя да трэніровак з асноваю **Аляксандр Альховік**, **Сяргей Дрозд**, **Аляксей Антановіч** і **Павел Пятроўскі**.

Дубль таксама прыступае да трэніровак, у планах матч 24-га чысла з мінскім "Лакаматывам" (Д2) двума складамі.

Фінансы больш аптымістычныя, чым летась.

Румбуціс у фінансавае будучае глядзіць з большым аптымізмам, чым гэта было, напрыклад, напачатку мінулага сезона. За мінуўшы год клуб не атрымаў ад горада 23% фінансавання, аднак ёсць абяцанні гэтую запазычанасць "закрыць". Каштарыс расходаў на гэты год будзе зацвярджацца напрыканцы студзеня. Зноў жа ёсць абяцанні дапамагаць клубу па меры магчымасцяў.

Што тычыцца міжнародных навінак у плане жыццяздзейнасці клубаў, то трансферныя перамены (за пераход футбалістаў пасля заканчэння кантракта выплатаў ужо не будзе), магчыма, пакуль не крануцца Беларусі, Украіны і Расіі. Федэрацыі футбола нашых краін збіраюцца дамовіцца пакінуць ранейшыя правілы для сваіх клубаў. А ліцэнзаванне клубаў (спіс умоваў багаты: ад школы для падрыхтоўкі юных футбалістаў да абавязковых пластыкавых сядзенняў і штучнага асвятлення на стадыёне) "Маладзечна-2000" кранецца гады праз два, і, бадай, толькі ў наступным сезоне наш клуб прыступіць да выканання патрэбных умоваў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**■ ЛЫЖНЫЯ ГОНКІ**

**МЯДЗЕЛ. Ірына Нафрановіч два разы была другая на розных дыстанцыях на чэмпіянаце рэспублікі сярод юніёраў.**

Тым самым прайшла адбор у склад нацыянальнай юніёрскай каманды. Зараз Ірына ў Славеніі рыхтуецца да міжнародных стартаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**МЯДЗЕЛ.** Выхаванцы Мядзельскай СДЮШАР занялі першае месца ў камандным заліку на абласным першынстве вучнёўскай моладзі ў Плешчаніцах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння фінішуе першынство горада па лыжным спорце сярод вучняў. Удзел бралі каманды з усіх школ, акрамя СШ №12.**

У канцы дня вызначаць каманду-пераможцу, якая атрымае грашовы прыз у 18 тысяч рублёў. А лепшыя лыжнікі возьмуць удзел у абласных спаборніцтвах.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

**МЯДЗЕЛ. 20 студзеня тут пройдзе чэмпіянат раёна па валейболе сярод жанчын.**

Каманды з курортнага пасёлка Нарач, Мядзела і вёскі Занарач будуць змагацца за права гуляць на першынстве горада. Пераможцаў чакае грашовы прыз у 25 тысяч рублёў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## ВІНШАВАНКІ

**Жанне Нарэйцы**
з Маладзечна
Віншуем са святам!



Желаем всегда и во всем успевать,
Усталости, слабости, горя не знать.
Желаем всегда оставаться
счастливой,
Веселой, радушной, здоровой,
красивой!
*Твае сябры,*
*хрэснікі Каця і Коля.*

Непаўторную і чароўную
**Софью Пятроўну Федаровіч**
з цудоўным юбілеем!
От всей души желаю,
Чтобы счастья было море,
Чтобы ты не знала горя,
Никогда чтоб не болела,
И до ста лет не старела,
Чтобы в жизни твоей личной
Было все всегда отлично.
*Святлана Камлюк.*

З юбілеем!
**Людміле Яўгенаўне Шафаловіч**
з Маладзечна
Для нас цябе няма на свеце
даражэй.
Адна ты ў нас, як у нябёсах сонца.
І Бог цябе няхай заўсёды беражэ,
І зорка шчасця свеціцца
твая бясконца.
*Муж і дзеці.*

**Уладзімір Канстанцінавіч Мейсак**, віншуем з 45-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, даўгалецця, сямейнага дабрабыту, кахання. *Швагерка Іра і яе сям'я.*

Віншуем **Сяргея Мацюшова** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, усмешак, добрага настрою і кахання. *Мама, тата і брат.*

**Фёдару Ігнатавічу Матусевічу,** в. Раеўшчына. Любы чалавек, са святам! Здароўя, дабрабыту і доўгіх год жыцця. *Жонка, дзеці, унукі.*

**Алу Езубчык** з 18-годдзем! Няхай кожны дзень звычайнага жыцця прыносіць табе радасць! *Мама.*

**Алу Генадзьеўну Езубчык** з 18-годдзем! Будь веселой, ласковой и милой, будь хорошей, как всегда была! *Цёця Лена і брат Андрэй.*

Віншуем **Вадзіма Галавача** з 18-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе. *Сем'і Страхаў і Соўсяў.*

Віншуем **Міхаіла Васілевіча** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, сямейнага шчасця. *Тамара, Марына.*

**А. Раманінай** і **Н. Вінаградавай**. З днём нараджэння! Пусть в вашем доме будет хлеб и соль, и обойдут вас горе, слезы, боль. *Рэгіна.*

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Адбой мазгам



Што ні кажы, а ўсе маладыя лейтэнанты чымсьці падобныя да вядомага паручніка Ржэўскага. Усе вельмі небаякавыя да жаночага полу і ўсе хочуць яго як мага больш уразіць.

Перад адпраўкаў на востраў Саарэма я служыў у вучэбнай часціі, якая месцілася ў горадзе Апочка Пскоўскай вобласці. "Пашчасціла" нам з камандзірам узвода – маладым лейтэнантам. Вясёлы ён быў чалавек, выдумшчык, аматар песень. Па горадзе мы заўсёды хадзілі з песнямі, нават ночу, калі вярталіся з каравула. А яшчэ, бывала, стрэльне наш военачальнік вачыма на дзяўчат, ды і гаркне ў самым людным месцы:

– Паветраная трывога!

Па гэтай камандзе трэба як мага хутчэй разбегчыся і замаскіравацца. Народ – у шоку, дзяўчаты – у захапленні.

Сабралі мы неяк наш узводны "курултай" ды вырашылі правучыць аматара ваенна-цыркавой халявы. А нагода доўга не чакала. Усё як мае быць: ідзем па горадзе, гарлапанім нейкую лухту пра сваю савецкую непераможнасць. Напярэдзе паказалася чародка даўганогіх прыгажунь. Вусны лейтэнанта аж раз'ехаліся ў ідыёцкай усмешцы, вачыма страляе, вусы падкручвае. Нарэшце, чуем:

– Паветраная трывога!

Па адным баку вуліцы знаходзіўся піўбар, па другім – кінатэатр. Падзяліўся наш узвод напалам і "замаскіраваўся" у гэтых установах. Наш "бацька-камандзір" крыху патаптаўся, каб навакольныя змаглі ацаніць яго "прыкол" і пайшоў збіраць асабовы састаў. Спачатку ў кінатэатр. Крыху адчыніў дзверы глядзельнай залы, дзе поўным ходам ішоў сеанс, і не на поўны голас скамандаваў:

– Чацвертая рота, на выхад!

А ў адказ з цемры пачулася:

– Таварыш лейтэнант, камандуйце па ўставе!

Рабіць няма чаго. Дзверы шырока расчыняюцца і чуецца роў на ўсю глотку:

– Адбой паветранай трывозе!

Кіно было цікавае, таму і народу было шмат. "Грамадзянскія" нічога не зразумелі, таму і выскачылі ўсе разам, паваліўшы пры гэтым і самога крыкуна. А калі разабраліся, у чым справа, яшчэ і хацелі наладзіць з ім сапраўдную бойку.

Чырвоны, як рак, лейтэнант пайшоў у піўбар па другую палову роты. Там каманда "Адбой паветранай трывозе" вельмі ажывіла апочкаўскую "сіняву". У камандзіра паляцелі рыбныя галовы, косткі і шчырыя пажаданні пайсці праспацца і не дурыць галовы сумленным людзям.

І ўсё гэта бачылі дзяўчаты, з-за якіх і была задуманая гэтая дэманстрацыя. Лейтэнант уразіў іх нават болей, чым сам таго жадаў! А для нас "паветраныя атакі" з таго дня скончыліся назаўсёды.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Бульбяная салата з кумпяком

**800 грамаў бульбы, 300 грамаў кансерваванага зялёнага гарошку, 300 грамаў поснага кумпяка, 1 цыбуліна, 50 грамаў сала, 100 грамаў мяснога булёну, 1 лыжка вінаграднага воцату, 1/2 лыжачкі солі, 2 лыжкі алею, перац.**

Зварыць у падсоленай вадзе неабабраную бульбу непасрэдна перад прыгатаваннем салаты, затым абабраць і парэзаць яе. Нарэзаць кумпяк і цыбуліну кубікамі. Нарэзаць сала невялікімі кубікамі і абсмажыць яго. Разагрэць мясны булён, змяшаць яго з бульбай і вінаградным воцатам, пасыпаць перцам. Дадаць кумпяк, цыбулю, сала і зялёны гарошак. Запраўіць алеем і даць пастаяць некалькі хвілін.

## Гур'еўскія бліны

**2 шклянкі пшанічнай мукі, 5 яек, 2 лыжкі масла, 2,5 шклянкі кефіру (кіслага малака), соль і цукар на смак.**

Уліць у каструлю яечныя жаўткі і дадаць да іх соль, цукар, добра ўзбіць. Затым усыпаць муку, дадаць масла, малако, замясіць цеста. Цеста патрэбна добра ўзбіць.

# Пра жанчын і дызельную ўстаноўку

У канцы 80–х гадоў, калі служыў у войску, стасункі паміж Савецкай Арміяй і прыбалтыйскімі "абарыгенамі" былі, мякка кажучы, напружаныя. Нас заўсёды папярэджвалі рэагаваць на "гарачых эстонскіх хлопцаў" з перасцярогай. Але...

Аднойчы яфрэйтар, які служыў камутатаршчыкам, "надыбаў" недзе "Плэй-бой". Ну, і паклікаў у сваю камутатарскую будку сяброў, каб разам пасмакаваць "клубнічку". Толькі-толькі пачаўся прагляд – стук у дзверы. Адчыняюць. Увальваецца п'яны эстонец і пачынае чапіцца да добрага люду:

– Р-р-рэпята! Дайтэ курыт, мне отшэнь трутно!

Узбуджаныя перарваным заняткам байцы хуценька выштурхалі тубыльца. Ды аднавілі перарванае шоу. Калі ж прагляд закончыўся, у галовы воінаў пачалі прасочвацца і іншыя думкі. А менавіта: а) вайсковая часць абгароджаная калючым дротам, б) праз КПП ніхто не праходзіў, в) на тэрыторыі часці ніводны патруль нікога не бачыў, г) камутатарская будка стаіць у ангары, адзіныя дзверы якога надзейна зачыненыя знутры, і не тое, што эстонец, нават марсіянін проста фізічна не ў стане быў бы сюды трапіць!

На прачэсванне тэрыторыі паднялі ўвесь асабовы састаў. Знайшлі толькі трывалы пах перагару ў ангары. Нашы эратаманы ў пагонах атрымалі па 5 нарадаў па-за чаргой. А маглі б атрымаць і пазачарговы водпуск дадому. Так што праўду кажуць французы:

– Шукайце жанчын, калі хочаце прыгод!

Каля нашай казармы знаходзіўся страявы пляц, дзе двойчы на дзень адбываўся развод ваеннаслужачых на дзяжурствы. А амаль упрытык да гэтых знамянальных аб'ектаў стаяла перавозная дызельная ўстаноўка ў вялізным кунгу. Салдат, у прынцыпе, істота лянівая. Вось і пачалі байцы, асабліва ночу, хадзіць не ў прыбіральню, што знаходзілася метрах у двухстах, а пад кунг. Вядома, што дызелісту такі паварот справы ну ніяк не мог спадабацца. Вусныя папярэджанні эфекту не далі. Тады наш абаронца Айчыны вырашыў пайсці на кардынальныя меры.

Аднойчы вечарам дызеліст вывеў фазу напружаннем 220В з зямлю пад кунгам і ўрубіў ток. Ночу Саарэма здрыгануўся ад жудаснага крыку. Так не выў бы нават сабака Баскервіляў у поўню! Раніцай "народны мсціўца" не ўбачыў пад сваім рабочым месцам ні трупаў, ні прадуктаў жыццядзейнасці і вельмі парадаваўся сваёй кемлівасці. Але...

Наступнай раніцай яго дызельная ўстаноўка ад колаў да даху была распісаная рознымі нехарошымі словамі. І яшчэ там было напісана вялікімі літарамі тое, што думаюць салдаты пра камандзіра часці і зампаліта! Развод павінен быў пачацца вось-вось...

Пытанне: ці можна за 15 хвілін звычайным пэндзлікам цалкам перафарбаваць агромністы кунг? Наш дызеліст даказаў – можна! Для савецкага салдата няма невырашальных задач! Але потым некаторы час ён умудраўся ўрыўкамі спаць, а ночу вартаваць свой баявы пост. Што тут можна сказаць...

Сябры! Будзьце ўзаемна ўважлівыя!

**Алег БЯГАНСКІ.**

# Куды ідзеш?

У сям'і разлад. Унучка **Ірка** не начуе дома. Вось проста так. Першы раз раніцай адмахнулася:

– Ну, была ў **Юлькі**. Што тут такога? Вам што да гэтага?

Другі – папярэдзіла: вечарынка з нагоды дня нараджэння Юлькінага хлопца. Яе таксама запрасілі.

А потым без усялякіх тлумачэнняў пачала па начах "гуляць".

Трывожацца толькі старыя, а маці спіць бесклапотна. Заявіла бабе і дзеду:

– Я была не дурная, значыць, і яна не будзе дурная!

Калісьці, яшчэ дзяўчынкай-падлеткам, **Тамара Іванаўна** ўбачыла ў прыпазніку знаёмую ёй па школе дзяўчыну старэйшага ўзросту. Ледзь яе пазнала. Цяпер гэта была ўжо мамаша двух дзяцей, "нагуляных" ад розных бацькоў. Выгляд яе цела ўразіў Тамару. Яна была не проста схуднелая, а змарнелая, сінюшная, з абвіслымі пустымі мяшочкамі замест жаночых грудзей; і галава паніклая, і цьмяны погляд. Пра яе даўно хадзілі размовы як пра распусную, легкадумную дзяўчыну, якая кінула школу і нідзе не працавала. "Начны матылёк". Тады на ўвесь рабочы пасёлак яна была адна такая. А цяпер?

Тамара Іванаўна доўга не магла апамятацца ад убачанай аднойчы гэтай вясною жудаснай карціны, калі ўвечары, ужо ў прыцемках, на галоўнай вуліцы раёна ўбачыла на абочыне вялікай дарогі міліцэйскую машыну, міліцыянераў каля дзяўчыны, што ляжала на газоне. Падышла бліжэй і разгледзела, што дзяўчына была ў непрытомнасці. Прыгожая, чорнавалосая, у джынсавым незашпіленым касцюме, апранутым на голае цела. Твар быў падрапаны, і на голым жываце праступала з драпінаў кроў. На войканне прахожых, што падыходзілі, міліцыянеры адказвалі стрыманым маўчаннем, а калі ўлёгся шум разнастайных меркаванняў і парад, адзін з іх каротка патлумачыў натоўпу:

– Мы самі ведаем, што з ёй, куды яе везці, і як ёй дапамагчы. Яна п'яная.

Сапраўды, ад дзяўчыны несла перагарам. Расплюшчыўшы, нарэшце, вочы, яна адказала на пытанне, колькі ёй год – дваццаць тры. А дзе жыве, не сказала. Яе павезлі ў аддзяленне міліцыі.

– Так, – думае бабулька, – яна не дурная, і дачка не дурная. Але... абставіны бываюць розныя, іх ствараюць і самі людзі. І дзе гарантыя, што людзі добрыя знойдуцца і ад бяды цябе выратуюць? Бывае так, што і розум не паспееш прымяніць. І таму ў адказе ўсе: і маці, і дзед, і бабуля. І няма чаго іх мучаць. Любоў да цябе, родная крывінячкі, трывога за цябе – іх права папярэджваць і нават патрабаваць разумных ад цябе паводзінаў і асобных учынкаў.

**Галіна ЧАКАСІНА.**

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 3

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)



## ЗНАЁМСТВЫ

Адзінокая жанчына (55 год) пазнаёміцца з мужчынам ( не п'яніцам). Маладзечна-4, п/п МС 0230175.

Вы адчаяліся сустрэць адказнага, шчырага спадарожніка і сябра? Адгукніцеся, не ўсё страчана! Адукаваны вясковец, 45/176/78, чакае. Маладзечна-6, п/п МС 0604043.

Інвалід, 32 гады, з жыллём, спакойны, не п'ю і не куру. Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з дзяўчынай (узрост значэння не мае). Маладзечна-7, МС 0487030.

Прыемная, прыстойная, 30/165, светла-русая, в/а, без шк/зв. Адшукай мяне, добры мужчына з кватэрай. Маладзечна-4, п/п 654508.

46/164, пазнаёмлюся з мужчынам для сур'ёзных сустрэч. Маладзечна-4, п/п МС 0508245.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ



Тэлефануе мужчына на станцыю хуткай дапамогі:

– Прыязджайце, у мяне тэмпература 37,5!

Дыспетчар пачынае тлумачыць, што гэта не прычына для выкліку "хуткай", што машын няма, бензіну няма і да т. п.

У адказ на гэта чуецца роспачны крык:

– ВЫ Ж КЛЯТВУ ПІФАГОРА ДАВАЛІ!!!

■ ІМЯНІНЫ

**18 студзеня**
**Праваслаўныя**: Рыгора, Міны, Міхея.
**Каталіцкія**: Малгажаты, Пятра.

**19 студзеня**
**Праваслаўныя**: ВАДОХРЫШЧА (Хрышчэнне Гасподняе).
**Каталіцкія**: Марты, Генрыха.

**20 студзеня**
**Праваслаўныя**: Іаана Хрысціцеля, Ілы.
**Каталіцкія**: Себасцьяна, Фабіяна.

**21 студзеня**
**Праваслаўныя**: Васілісы, Анастасія, Антона, Георгія, Ілы, Рыгора, Сідара, Феафіла, Юльяна.
**Каталіцкія**: Агнешкі, Яраслава.

**22 студзеня**
**Праваслаўныя**: Піліпа, Пятра, Яўстрата.
**Каталіцкія**: Анастаса, Вінцэнта.

**23 студзеня**
**Праваслаўныя**: Макара, Паўла, Рыгора, Феафана.
**Каталіцкія**: Марыі, Ідальфонса, Раймунда.

**24 студзеня**
**Праваслаўныя**: Сцепаніды, Фядосіі, Міхаіла.
**Каталіцкія**: Феліцыі, Рафала, Францішка.

### Кінатэатр «Радзіма»

**Студзень**



**Вялікая зала**

18–20 **"Дзеці шпіёнаў"**, ЗША, камедыя 15-30, 17-30, 19-30
**"Нават і не думай"**, ЗША, камедыя 21-30

21–27 **"Вірус кахання"**, прэм'ера, ЗША, камедыя 15-30, 19-30, 21-30
"Са зброяй у руках", ЗША, баявік 17-30

**Для дзяцей**

20 студзеня – "Дыназаўр" 13-00

